Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 550.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ

Пятніца, 14 жніўня 1998 г. | № 84 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Ці не падвысіцца ў бліжэйшы час мінімальны заробак?

*З такім пытаннем звяртаюцца ў рэдакцыю нашыя чытачы*

Рашэнне аб павышэнні мінімальнага заробку прымае Савет міністраў на падставе прапановы міністэрства працы. У міністэрстве нам паведамілі, што праблемай падвышэння мінімальнага заробку яны займаюцца яшчэ з траўня, але дагэтуль прапанова аб павышэнні «мінімалкі» ў Савет міністраў не паступіла — пакуль што яна ўзгадняецца з міністэрствамі эканомікі, фінансаў, юстыцыі.

Дарэчы, як адзначылі ў міністэрстве працы, мінімальны заробак — велічыня больш сімвалічная, якая не ўплывае на рэальны памер заробка. На падставе мінімальнай заработнай платы налічваюцца стыпендыі, матэрыяльныя дапамогі, штрафы, дзяржпошліны і г.д. Памер заробка непасрэдна залежыць ад стаўкі першага разраду, на падставе якой вылічваюцца стаўкі ўсіх астатніх разрадаў — усяго разрадаў 28. Прыбіральшчыца, напрыклад, не можа атрымоўваць заробак, ніжэйшы за стаўку першага разраду — на сённяшні дзень гэта 500 тысяч рублёў. Рэктар любога ВНУ Беларусі мае заробак найвышэйшага 28-га разраду, і гэта не ніжэй за 3 мільёны 240 тысяч рублёў.

Начальнік упраўлення працы і заработнай платы міністэрства працы Аляксандр Коўшар паведаміў, што рыхтуецца прапанова і аб падвышэнні стаўкі першага разраду — да 600—750 тысяч рублёў. Але ў бліжэйшы час чакаць павышэння мінімальнага заробку ці стаўкі першага разраду не варта.

Нагадаем, што з 1 студзеня гэтага года мінімальны заробак у Беларусі складае 250 тысяч рублёў, а стаўка першага разраду — 500 тысяч рублёў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

### Янка Брыль – ганаровы грамадзянін



**Карэліцкі райвыканкам прысвоіў званне ганаровага грамадзяніна раёна народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю. Як сфармулявана ў пастанове — «за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці раёна, любоў да роднай зямлі і мовы».**

Нагадаем, што з гэтым кутком Беларусі звязана дзяцінства пісьменніка. Ён нарадзіўся ў Адэсе ў 1917 г., а ў пяцігадовым узросце пераехаў з бацькамі на жыхарства ў вёску Загор'е Карэліцкага раёна.

*БелаПАН*

### Ахвярам Халакоста

**Учора ў мястэчку Мір Карэліцкага раёна адбылася цырымонія адкрыцця помніка ахвярам Халакоста.**

З часоў Другой сусветнай вайны тут засталіся пахаванні расстраляных яўрэяў. На цырымонію адкрыцця прыехалі консул ізраільскай амбасады ў Мінску, родныя загінуўшых, а таксама прадстаўнікі мясцовых уладаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Ваенныя лётчыкі святкуюць

**Паслязаўтра, у нядзелю, — Дзень Ваенна-паветраных сілаў.**

У сувязі з гэтым у вайсковых часцях гэтага роду войскаў пройдзе дзень адчыненых дзвярэй, а ў Баранавічах і Бабруйску адбудуцца авіяцыйныя шоу, паказ тэхнікі і ўзбраення.

*БелаПАН*



*БІТВА*

## Святая справа



IREX/ProMedia

**На палях Беларусі працягваецца бітва за ўраджай. Усё жывое, што можа рухацца, хадзіць, бегаць, плаваць альбо лётаць, мусіць сканцэнтравацца на ўборцы збожжа.**

### Газетны псіхоз

Біцца за ўраджай дапамагаюць усе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Газеты, радыё, тэлебачанне вядуць прамыя рэпартажы з лініі фронта, ствараюць свае штабы па ўборцы ўраджаю, нагнятаюць уборачныя жарсці. А калектыў газеты «Рэспубліка», напрыклад, збіраецца паехаць на дапамогу сельскім працаўнікам. Зрэшты, усё роўна пісаць няма пра што: лета — мёртвы сезон для журналістаў.

Газетныя палосы мігцяць лічбамі: тонамі сабранага зерня, ураджайнасцю, паказчыкамі тэмпаў уборкі збожжа — у кожным калгасе, раёне, вобласці. Дарэчы, «паказчык тэмпаў уборкі збожжа» — вельмі важная статыстычная велічыня: сам таварыш прэзідэнт падчас традыцыйнага шоу «Селектарная нарада-98» загадаў, каб у кожнай гаспадарцы штодня ўбіралася збожжавых не менш як з 5 працэнтаў плошчы пасеваў. «Пяць працэнтаў у дзень...» — у сне варушацца пасмаглыя вусны старшыняў калгасаў па ўсёй Беларусі.

### Тэлеграмай — супраць стыхіі

Але запаветная пяціпрацэнтная норма ў многіх гаспадарках не выконваецца — нягледзячы нават на шэфскую дапамогу высокіх дзяржаўных чыноўнікаў, якіх прэзідэнт «замацаваў» за кожнай вобласцю, каб пільна сачылі за працэсам жніва. Пра кепскае выкананне даручэнняў прэзідэнта сведчыць і тэлеграма прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, разасланая па ўсіх выканкамах і іншых «органах дзяржаўнага кіравання». Вытрыманая ў лепшых савецкіх традыцыях (дарэчы, дагэтуль на бланку «Правительственная телеграмма, министерство связи СССР»), лінгаўская тэлеграма пафасна заклікае супрацьпаставіць прыроднай стыхіі *«организованность и высокую дисциплину, полную самоотдачу»*. Ад кіраўнікоў усіх міністэрстваў і арганізацыяў тэлеграма патрабуе *«оказать безотлагательно помощь сельчанам в уборке хлеба, кормов, льна»*. Для тых, хто дагэтуль не ўцяміў усю важнасць уборкі ўраджаю і шкадуе даслаць сотню-другую сваіх супрацоўнікаў у палі, Сяргей Лінг сурова нагадвае: *«Спасение урожая — это святое дело для всех нас. Это — продовольственная безопасность страны, залог ее независимости»*.

### Усе чыноўнікі — на жніво!

Між іншым, прэм'ер-міністр на прыкладзе свайго ведамства вырашыў паказаць усёй краіне, як трэба змагацца за ўраджай. На нарадзе ў апараце Савета міністраў было вырашана, што супрацоўнікі апарата паедуць працаваць у асобныя гаспадаркі Мінскай вобласці. Першая група «працоўнага дэсанту» ўжо збірае рэчы.

### Дажынкі будуць у Нясвіжы

Нягледзячы на кепскае надвор'е, ламаную тэхніку і міністэрскія загады, жніво ідзе, хаця і не «прэзідэнцкімі тэмпамі». Праз месяц, 18 і 19 верасня, у Нясвіжы вынікі жніва падвядуць на свяце «Дажынкі-98». Лепшыя камбайнеры, кіроўцы атрымаюць ад дзяржавы ў якасці прэміі аўтамабілі «Жыгулі», тэлевізары, халадзільнікі — 16 мільярдаў рублёў не пашкадавалі на «святую справу». Будзе канцэрт, начная дыскатэка для моладзі. На шчасце, арганізатары вырашылі адмовіцца ад прамой двухдзённай тэлетрансляцыі свята дажынкаў у прамым эфіры — тое, што можна паказаць за 15 хвілінаў, не варта расцягваць на два дні: эфірны час каштуе дорага.

Калісьці савецкі сатырык жартаваў, што існуе толькі чатыры аб'ектыўныя прычыны, якія замінаюць сельскай гаспадарцы краіны, — зіма, вясна, лета і восень. Для Беларусі гэта актуальна і сёння. І колькі «бітваў за ўраджай» ні аб'яўляй, колькі ні дасылай цыркуляраў, аднак пакуль людзям не будуць плаціць за іхнюю працу нармальныя грошы, кожнае жніво будзе «апошняй бітвай не на жыццё, а на смерць».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

### Чалавек патануў у віне

**13 жніўня Слонімскі вінаробчы завод адзначыў юбілей. Ён быў створаны роўна 50 гадоў таму. Свята калектыву ўпрыгожылі два медалі, толькі што атрыманыя на выставе ў Санкт-Пецярбургу, — срэбны і бронзавы за настойкі «Журавінная» і «Фрэгат».**

Аднак напярэдадні юбілею адбылося і непрыемнае здарэнне. Каля трох гадзінаў ночы дзядзька з пляменнікам вырашылі скрасці на заводзе віна, узялі посуд і пералезлі цераз плот. Маладзейшы са злодзеяў 32-гадовы Алег К. адчыніў люк 25-кубовай цыстэрны, глянуў — і, захлынуўшыся вінным духам, зваліўся ўсярэдзіну. Дзядзька кінуўся яго ратаваць, зачапіўся нагой, павіс над віном і пачаў крычаць, але страціў прытомнасць.

На крыкі прыбег вартаўнік, які выклікаў міліцыю. Віно перакачалі ў іншую цыстэрну і дасталі тапельца. Малады мужчына загінуў не ад віна, а літаральна ў віне.

У Слоніме робяць танныя, разлічаныя на кішэню звычайнага беларуса, віны, якія ў народзе традыцыйна называюць «чарнілам». Вырабляюць таксама гарэлку і настойкі, за якія даюць медалі. Попыт на ўсе напоі — устойлівы. Дзякуючы гэтаму праца на заводзе вельмі прэстыжная, бо тут самыя высокія заробкі. Сярэдні на вінаробчым — ажно 8 мільёнаў і 283 тысячы ў месяц. Гэта больш чым у два разы вышэй за сярэдні заробак па горадзе.

Дарэчы, робячы нядаўна справаздачу гарадскім уладам, дырэктар вінзавода Ж.Сікорскі паведаміў, што робяцца захады, каб яшчэ павялічыць выпуск спіртных напояў. Трагічнае здарэнне на заводзе наўрад ці адаб'е ахвоту аматарам «Слонімскага моцнага».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



IREX/ProMedia

### Не бойся самалёта над Мінскам

*Сёння над цэнтрам сталіцы на невялікай вышыні будзе лётаць самалёт*

**Нічога страшнага — проста здымаюць кіно.**

На студыі «Беларусьфільм» рэжысёр Віталь Дудзін робіць лірычную камедыю «Тры жанчыны і мужчына». Для аднаго з эпізодаў фільма неабходныя кадры Мінска «зверху». Пілот з кінааператарам на невялікай вышыні («зыходзячы з умоваў бяспекі палёту і магчымасцяў здымачнай камеры», як паведамілі ў Нацыянальным аэраклубе) пралятуць па маршруце Баравая — праспект Францыска Скарыны — чыгуначны вакзал — стадыён «Дынама» — тэатр музычнай камедыі — вуліца Танкавая — Траецкае прадмесце — праспект Машэрава — Баравая.

*БелаПАН*

## Футбол як знак салідарнасці

**Гомельскія актывісты маладзёжнай арганізацыі «Грамадзянскі форум» праводзяць шэраг футбольных матчаў у падтрымку маладога палітвязня Аляксея Шыдлоўскага, які ўжо роўна год сядзіць у турме.**

Заўтра ў Гомелі адбудзецца чарговы матч: «Грамадзянскі форум» будзе спаборнічаць з чарнігаўскай камандай моладзі Ліберальнай партыі Украіны. Наступным жа днём, 16 жніўня, матч у абарону Шыдлоўскага «Грамадзянскі форум» збіраецца згуляць у Светлагорску.

Вопыт такіх матчаў у гомельскай каманды «Грамадзянскага форуму» ўжо маецца. У мінулую суботу ў Рэчыцы яна сустракалася са зборнай мясцовай апазіцыі, пасля чаго ўдзельнікі і балельшчыкі прайшліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі па вуліцах горада. Ніякіх інцыдэнтаў з міліцыяй на гэты прадмет не было.

І хаця чыста спартовага поспеху гамяльчане не мелі, бо рэчыцкая апазіцыя разграміла іх з лікам 12:1, але ж не ў гэтым рэч. Думаецца, ініцыятыва гомельскіх маладых лібералаў вартая пераймання — у тым сэнсе, што, апроч традыцыйных мітынгаў, апазіцыі (тым больш моладзі) трэба шукаць іншыя формы і сродкі выказвання сваіх патрабаванняў і пратэстаў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Лепшы сябра кароў заслужыў машыну

**Яўген Ефіменка, ветэрынарны ўрач-асемянатар з калгаса «Гігант» Бабруйскага раёна, прызнаны лепшым на конкурсе ветэрынараў краіны.**

Ён ужо больш за 20 гадоў робіць сваю справу. Як паведамілі калегі па працы Ефіменкі, «шмат разоў яго прэміравалі за высокія лічбы па «выхаду цялят». І вось прафесійныя якасці ўзнагароджаныя на самым высокім узроўні. Гаспадарцы выдзелілі 320 мільёнаў рублёў, на якія будзе набыты службовы аўтамабіль для славутага ўрача-асемянатара.

**Іван ЗАСАДА**

## Музей нашых сапраўдных багаццяў

**Незвычайны музей ствараецца ў Клічаве, райцэнтры Магілёўскай вобласці. Гэта будзе музей лесу.**

Клічаўскі раён — самы лясны ў вобласці: 60% тэрыторыі пакрыта лесам. У музеі будзе 9 вялікіх залаў, экспазіцыя распавядзе пра флору і фауну лясоў, гісторыю ўзаемадачыненняў чалавека і дзікай прыроды. А залу археалогіі складуць матэрыялы раскопак, што вядуць на Клічаўшчыне спецыялісты з Інстытута гісторыі Акадэміі навук.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Вінаватым зрабілі начны бар

**Слонімскі гарвыканкам прыняў рашэнне абмежаваць працу адзінага ў горадзе кругласутачнага бара «Аазіс». У рашэнні зазначана, што «работа ўсю ноч павышае крымінагенную абстаноўку».**

Доўгі час бар гэты лічыўся бяспечным месцам, паколькі знаходзіцца ўсяго за якіх-небудзь пяцьдзесят метраў ад міліцыі. Аднак нядаўна на вуліцы каля бара быў падстрэлены «мясцовы аўтарытэт». У бальніцы яму дасталі кулю з жывата і ён застаўся жывы. А вось бар перастаў быць «кругласутачным»: цяпер «Аазіс» будзе зачыняцца ў 2 гадзіны ночы.

Між іншым, ворагі параненага каля «Аазіса» знішчылі не так даўно ноччу ягоны «Мерседэс», які стаяў на вуліцы.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## *Удакладненне*

На беларуска-польскай мяжы за паўгода было затрымана звыш 300 парушальнікаў дзяржаўнай граніцы — такія звесткі паведаміла нам прэс-служба Памежных войскаў з мэтаю ўдакладніць інфармацыю, якая была апублікаваная ў мінулым нумары НАВІНАЎ.

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Пракуроры паставілі Клімаву дыягназ

**На гэтым тыдні здарыўся адзін з тых рэдкіх выпадкаў, калі ў ролі дапытваемых аказаліся высокія чыноўнікі з пракуратуры. Намеснік генпракурора Пётр Іваненка і Аляксандр Іваноўскі расказвалі журналістам, як праходзіць следства па найбольш гучных крымінальных справах.**

Нагадаем, што месяц таму на нарадзе сілавых міністраў у прэзідэнта генпракурор Алег Бажэлка дакладваў Лукашэнку аб гэтых справах. Тады галоўны беларускі пракурор казаў, што следства па справе «карупцыянераў» Васіля Лявонава і Васіля Старавойтава ўжо закончанае, і пасля таго, як экс-міністр сельскай гаспадаркі і былы старшыня калгаса «Рассвет» азнаёмяцца з матэрыяламі справы, яны стануць перад судом. Бажэлка таксама абяцаў, што хутка адбудзецца суд і над забойцамі старшыні дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага.

Аднак тое, аб чым казалі намеснікі генпракурора ў аўторак, адрозніваецца ад словаў іхняга шэфа. Так, Іваненка з Іваноўскім пацвердзілі інфармацыю аб тым, што Старавойтаў прызнаў сябе вінаватым па бальшыні прад'яўленых яму абвінавачванняў і хутчэй за ўсё праз месяц над ім адбудзецца суд. Але што тычыцца Лявонава, то яму суда, відаць, чакаць яшчэ давядзецца доўга. Па словах намеснікаў Бажэлкі, тэрмін знаходжання пад вартай яму працягнуты да аднаго года — гэта значыць да 11 лістапада. Следства па справе былога міністра цяпер працуе па чатырох напрамках, у тым ліку па злоўжыванні службовым становішчам і па атрыманні хабару. Па «справе Мікалуцкага», сказалі пракурорскія намеснікі, на сённяшні дзень ідзе працэс прад'яўлення абвінавачвання падазраваемым у забойстве асобам. Калі ж адбудзецца суд, пракурорскія намеснікі не ўдакладнілі.

Адносна справы былой старшыні Нацбанка Тамары Віннікавай было паведамлена наступнае: пасля таго як Віннікава пройдзе курс рэабілітацыйнага лячэння (нядаўна ёй была зробленая аперацыя), следчыя дзеянні па гэтай справе будуць працягнутыя. Нагадаем: следчыя дзеянні па справе Віннікавай цягнуцца ўжо паўтара года і, па некаторых звестках, акрамя сервіза і гадзінніка, якія экс-старшыня Нацбанка атрымала ў падарунак (следчыя лічаць гэта хабарам), ніякіх рэчавых доказаў віны няма.

«Вызваляць дэпутата Андрэя Клімава пад падпіску аб нявыездзе ў следства няма ніякіх падставаў», — сказаў намеснік генпракурора. Па ягоных словах, у турме Андрэй прайшоў амбулаторнае абследаванне і медыкі не выявілі ў яго хваробаў. «Дзеля таго, каб зняць усе інсінуацыі вакол гэтай справы, Клімава змясцілі на лячэнне ў адну з медустановаў МУС», — паведаміў Іваненка. Незразумела: калі Андрэй здаровы, дык навошта яго лячыць?

Мы вырашылі пацікавіцца ў калегаў арыштаванага дэпутата, што ім вядома аб стане здароўя Клімава. Дэпутат Аляксандр Дабравольскі сказаў, што рабіць падобныя заявы аб здароўі Клімава могуць толькі людзі, якія ці не ведаюць сапраўднага стану рэчаў, ці ён іх проста не хвалюе. «Я нядаўна сустракаўся з жонкай Клімава Таццянай, яна бачылася з лекарамі шпіталя, у якім абследуюць яе мужа», — паведаміў нам Дабравольскі. Паводле папярэдняга дыягназу, пастаўленага турэмнымі медыкамі, Андрэй Клімаў пакутуе ад ішэмічнай хваробы сэрца. Дык хто ж гаворыць праўду?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Кніжак пра радыяцыю на ўсіх не хопіць

**Міністэрства лясной гаспадаркі не мае грошай, каб выдаць дастатковую колькасць даведнікаў аб радыяцыйнай сітуацыі ў лясах Беларусі.**

На нарадзе, якая праходзіла ў Гомелі, міністр Валянцін Зорын паведаміў: міністэрства мае поўную інфармацыю аб радыяцыйным забруджванні ўсіх 51 лясгасаў рэспублікі. Гэтыя звесткі плануецца змясціць у спецыяльных даведніках разам з каментарыямі і рэкамендацыямі спецыялістаў. Даведнікі разлічаныя на шырокі круг чытачоў, аднак на іх выданне не хапае грошай. Напрыклад, у Гомельскай вобласці першае эксперыментальнае выданне такога даведніка па Добрушскім лясгасе стала магчымым толькі дзякуючы дапамозе аблвыканкама, але ўсё роўна сродкаў хапіла толькі на 5 тысяч экземпляраў.

## Стыхія з'ела ўсе грошы

Гомельская вобласць не ў стане справіцца з наступствамі праліўных дажджоў і ўраганаў. Паводле падлікаў, урон ацэньваецца ўжо ў 3 трыльёны рублёў, а ў абласным бюджэце на выпадак надзвычайных сітуацыяў прадугледжана ў 300 разоў менш — толькі 10 мільярдаў, а іх ужо даўно зрасходвалі. Між тым сіноптыкі прагназуюць, што не выключаныя новыя ўдары стыхіі.

*БелаПАН*

## Суд заняўся мяккімі знакамі

### *Адбылося першае судовае паседжанне па справе «Нашай Нівы»*

Дагэтуль рэжым звычайна быў незадаволены тым, **што** піша незалежная прэса. Цяпер чыноўнікі звярнулі пільную ўвагу і на тое, **як** яна піша. Газета «Наша Ніва» атрымала ад Дзяржкамдруку папярэджанне не за змест публікацыяў, а за арфаграфію: ведамству Падгайнага здалося, што ў «Нашай Ніве» зашмат мяккіх знакаў.

Справа газеты «Наша Ніва» разглядалася ў сераду ў Вышэйшым гаспадарчым судзе. Прадметам разгляду была правамернасць папярэджання, вынесенага газеце нашым сумнавядомым Дзяржкамдрукам. Папярэджанне выносілася за тое, што газета нібыта парушыла артыкул 6 Закона аб друку, які абавязвае ўсе выданні карыстацца «агульнапрынятымі нормамі мовы». Зрэшты, што гэта за «агульнапрынятыя нормы», нідзе ў заканадаўстве не гаворыцца.

Судовае паседжанне было непрацяглым. Суддзя Ірына Петухова прыняла рашэнне правесці «комплексную экспертызу». Прадстаўнікі бакоў па справе павінны даць суду свае прапановы наконт таго, якія ўстановы і персаналіі трэба задзейнічаць у экспертызе і якія пытанні паставіць перад экспертамі.

Канешне, добра, што суддзя не палічыла сябе вялікім спецыялістам у галіне лінгвістыкі, а вырашыла даручыць гэтую праблему прафесіяналам. Але не вельмі зразумела, чым тут можа дапамагчы мовазнаўчая экспертыза. Можна па-рознаму ставіцца да «тарашкевіцы» (дарэформеннага правапісу, якім кіруецца «Наша Ніва») і да сучаснай арфаграфіі (г.зв. «наркомаўкі»), прыводзіць аргументы на карысць і той, і іншай. Аднак пытанне, якім правапісам друкаваць газету, павінна вырашаць толькі сама рэдакцыя. І чытачы, якія плацяць за газету грошы.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Адам Міцкевіч: ілюстраваная гісторыя жыцця

**Пазаўчора ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння знакамітага паэта Адама Міцкевіча.**



*Адам Міцкевіч.*

На стэндах гісторыя жыцця Адама Міцкевіча багата ілюструецца фотаздымкамі з музея Міцкевіча ў Варшаве. Дзіўна толькі, што ўсе тэксты — па-руску. Арганізатары выставы патлумачылі, што экспазіцыя існуе толькі на рускай і польскай мовах — беларускага варыянта зрабіць не справіліся: вырашылі, што беларускі наведвальнік зразумее.

Ёсць тут і прэм'ера: выстаўляецца серыя карцінаў Аляксандра Зубрыцкага *Białorus Mickiewiczowska* — «Беларусь Міцкевіча». На карцінах Зубрыцкага выяўленыя Вострая Брама ў Вільні, Фарны касцёл у Навагрудку, возера Свіцязь — тое, што было дарагое сэрцу паэта. Цікава, што для працы над карцінамі Аляксандр Зубрыцкі выкарыстоўвае не фарбы ці алоўкі, а дробныя кавалачкі каляровага шкла, замацаваныя на драўлянай плоскасці пры дапамозе спецыяльнай смалы. Па словах мастака, такой тэхнікай не карыстаецца больш ніхто.

Падчас адкрыцця выставы вядомы беларускі літаратуразнаўца Адам Мальдзіс прадставіў выданне «Адам Міцкевіч і Беларусь» — зборнік артыкулаў, прысвечаных Міцкевічу і ягонай паэтычнай спадчыне, вершы беларускіх аўтараў пра Міцкевіча, а таксама бібліяграфія «Адам Міцкевіч у друку Беларусі».

Выстава, прадстаўленая Польскім інстытутам у Мінску, будзе працаваць да 8 верасня. Уваход вольны.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*КАДРЫ*



## На месцы зруйнаваных цэркваў будуць адпачываць гараджане

**На тэрыторыі старажытнага Брэста ствараецца зона адпачынку.**

Шпітальным востравам, або Валынскім прадмесцем, у Брэсце называюць тэрыторыю каля мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Да будаўніцтва крэпасці тут быў старажытны горад — больш за два дзесяткі касцёлаў, цэркваў і манастыроў. Усё гэта было з часам знішчана. Сёння Шпітальны востраў — гэта недагледжаны ўчастак зямлі з напаўразбураным будынкам манастыра бернардзінак, разрабаванымі ваеннымі казармамі, што засталіся ад Савецкай Арміі, і агародамі гараджан.

Некалькі гадоў таму было створанае АТ «Старажытнае Бярэсце», распрацаваны аўтарскі праект рэканструкцыі старога горада. Аднак тады далей размоваў справа не пайшла. Нядаўна савет па захаванні гістарычнай спадчыны пры Брэсцкім аблвыканкаме вырашыў, што стварэнне на месцы старажытнага горада зоны адпачынку на сённяшні дзень — найбольш прымальны варыянт. Аднаўленчыя работы плануецца скончыць у наступным годзе.

*БелаПАН*

# Гродна нельга не любіць

**Горад безумоўна падабаецца большасці яго жыхароў, мне таксама. Любілі Гродна і людзі вядомыя, вялікія гістарычныя асобы. Вялікі князь Вітаўт, кароль Стэфан Баторы, пісьменніца Эліза Ажэшка. Сёння любяць і мае калегі-журналісты, любіць мэр Анатоль Пашкевіч. З яго і пачнем.**

## «Савецкая Швейцарыя»

Ужо некалькі месяцаў дамы ў гістарычным цэнтры Гродна грунтоўна паднаўляюцца. Праводзіцца, як гаворыць начальства, «аперацыя «Фасад». Перадусім, будаўнікі паляпшаюць выгляд першай у Беларусі пешаходнай вуліцы — у Гродне, бадай, самай прыгожай. Як прызнаўся ў адным інтэрв'ю мэр, ён любіць па ёй ісці пешшу на працу і радавацца старым камяніцам: «сапраўдная маленькая Швейцарыя». Што ж, прыемнае параўнанне. Толькі вось вуліца называецца зусім не




*Тыповы куточак старога Гродна. Высокія сцены, храмавыя калоны, каваныя ліхтары — як у Еўропе.*

па-еўрапейску — Савецкая. Нават у самыя ліберальныя часы ўлады не рашыліся вярнуць ёй гістарычную назву. Так і засталася «савецкая Швейцарыя».

У мэра Пашкевіча ёсць яшчэ адно параўнанне, якое ён часта ўжывае ў інтэрв'ю, на прэс-канферэнцыях. Яму здаецца, што Гродна — гэта таксама «маленькі Ватыкан». Абгрунтоўвае ён гэта тым, што ў горадзе ёсць храмы ўсіх канфесіяў і ўсе жывуць дружна. З'едлівыя журналісты ўжо смяяліся з яго за гэта, але не патлумачылі, што прыкладам шматканфесійнасці, напэўна, найлепш будзе назваць горад Ерусалім. А ён зноў за сваё: маленькі Ватыкан — і ўсё тут. Атрымліваецца, што Італія нашаму начальству псіхалагічна бліжэйшая. Зрэшты, не ўсё ў тым Ерусаліме так мірна-дружна, як у нашым горадзе, аднак Ватыканам ён ад гэтага ўсё адно не зробіцца.

## Касцёлы ці цэрквы?

З гэтымі самымі канфесіямі моцна заблытаўся адзін мой мінскі калега, які нарадзіўся і даўгаваты час жыў у Гродне. Даў ён інтэрв'ю пра свой родны горад маскоўскаму «Русскому журналу», які распаўсюджвае свае матэрыялы праз Інтэрнэт. Ён безапеляцыйна сцвярджае, што камуністы разбурылі ў Гродне толькі цэрквы. Паколькі савецкая ўлада была па сваёй сутнасці рускай і ажыццяўлялася з Масквы, гэта прагучала даволі дзіўна. Таму карэспандэнт удакладніў: значыцца, гэта былі не касцёлы? А ў адказ: так, гэта былі менавіта праваслаўныя цэрквы...

Мушу зноў удакладняць. Царскія ўлады цэркваў у прынцыпе не будавалі, яны проста забіралі касцёлы і рабілі з іх праваслаўныя храмы. Самы вядомы прыклад — гатычны Фарны касцёл Вітаўта, на вежы якога прымайстравалі «цыбуліны». Аднак справядлівасць была аднаўленая: касцёл зноў стаў касцёлам. Праўда, ненадоўга: яго знішчылі дынамітам у 1961 годзе. Сярод тых, хто прымаў гэтае рашэнне, былі людзі нетутэйшыя. Расказваюць, што некалькі з іх потым памерлі заўчасна. Вандалізм — справа небяспечная.

## Тут была «квітнеючая Галандыя»

Вось яшчэ адно параўнанне: сцвярджаецца, што нібыта самі гродзенцы лічаць свой горад «маленькім Парыжам». З чаго б гэта? Па-першае, мала хто пакуль там бываў, хоць апошнія 2-3 гады турфірмы настойліва прапануюць правесці ў «горадзе кветак, моды і кахання» Каляды і Новы год. Па-другое: у чым можа быць падабенства? Свайго «Нотр-Дама» ў нас няма, у 1961 годзе — разбурылі... Замест арыгінала статуі Свабоды, якую французы падарылі амерыканцам, у нас ёсць толькі аграмадны Ленін. Тэлевышку толькі з вялікай нацяжкай можна параўнаць з вежай Эйфэля. Адзінае, што рака таксама ёсць, і Нёман па шырыні ў Гродне амаль такі, як Сена ў Парыжы.

А што датычыць Швейцарыі, дык у гэтым параўнанні ўсё ж больш рацыі. У горадзе ёсць месца, за якім гістарычна замацавалася назва Швейцарская даліна — маляўнічыя берагі рачулкі Гараднічанкі, якая была месцам шпацыру і адпачынку. Але Саветы напалову засыпалі яе, зрабіўшы зверху пляц Леніна, які, як вядома, бываў у Швейцарыі ў эміграцыі. Так што прыціснулі Ільічом былую «швейцарскую» прыгажосць, а рачулку ператварылі ў сцёкавую канаву.

Ужо калі гаварыць пра параўнанні, дык з пісьмовых крыніцаў таксама вядома, што гадоў 200 таму Гродна, перш за ўсё дзякуючы ягонаму прадмесцю Гарадніца, называўся «квітнеючай» альбо «маленькай Галандыяй». Падабенства было абсалютным: рэфарматарам А.Тызэнгаўзам была пабудаваная вялікая колькасць мануфактураў, прыгожых будынкаў, жылых і фабрычных, на рэчках стаялі млыны. Але сёння з Галандыяй нічога агульнага няма. Хіба што нейкі галандзец крэветкі чысціў і марозіў у нас на адным... радыёзаводзе, былым вайсковым.

## Парыж бліжэй за Маскву?

Паводле майго калегі, якога я ўжо ўзгадваў, гродзенцы адчуваюць сябе еўрапейцамі, для якіх Парыж псіхалагічна бліжэйшы за Маскву, а Мінск — увогуле невядома што: вялікі бесталковы горад. Я думаю, што якраз тут акцэнты расстаўленыя слушна. Адзінае, што самым блізкім сталічным горадам для сябе нямала гродзенцаў лічаць не Мінск або Вільню, а Варшаву. Тым больш, шляхі далей у Еўропу вядуць праз яе. Ездзіць у адваротным кірунку — у Маскву або ўвогуле на які-небудзь Урал зрабілася зусім непапулярным.

Гродзенская газета «Биржа Информации» рэгулярна праводзіць ананімныя тэлефонныя апытанні жыхароў горада. Апошнім разам запыталіся: ці хацелі б вы эміграваць, а калі так — дык куды канкрэтна? Высветлілася, што большасць гродзенцаў — патрыёты. Толькі чвэрць з іх дапускае ў прынцыпе магчымасць пакінуць Беларусь і свой горад, а з гэтай колькасці толькі 16% з'ехалі б з задавальненнем. Гэтых людзей найбольш прываблівае Нямеччына (22%) і Расія (20), а таксама Аўстралія (11) і ЗША (10). Называліся таксама Канада, Ізраіль і суседнія з Беларуссю краіны, дзе можна адчуваць сябе псіхалагічна больш камфортна.

Тая ж самая газета папрасіла падумаць, чым адрозніваюцца гродзенцы ад астатніх жыхароў краіны. Найбольш было такіх адказаў: мы — «заходнікі» (42%), мы — «працавітыя» (27%). Гродзенцы таксама адказвалі, што ў нас часта «іншыя палітычныя погляды» (у параўнанні з беларусамі-ўсходнікамі), бо мы «прызвычаіліся глядзець у бок Еўропы».

Дарэчы сказаць, вядомы польскі праваабаронца Марэк Навіцкі, які наведаў наш горад нядаўна, выказаў такія свае назіранні. На ягоную думку, у пэўным сэнсе мяжа Еўропы знаходзіцца паміж Гродна і Мінскам. У Гродне людзі яшчэ часцей пасміхаюцца, у іх больш разняволеныя, адкрытыя твары. Карацей кажучы, нават замежнікі адзначаюць, што мы ўсё ж — своеасаблівыя.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Лісты ў рэдакцыю*

# Пра медыцыну, якую я хачу

Дарагая рэдакцыя! Ужо не раз вы пісалі пра праблемы медыцыны. Я жанчына яшчэ адносна маладая, да нядаўняга часу з бальніцамі не сутыкалася, але вось жа прыйшлося. Не паскарджуся: дапамаглі, вылечылі, дагледзелі. А што гэта грошай пэўных каштавала — дык не бяда, нармальна.

Адно мяне турбуе. Лячылася я ў адной з галоўных бальніц Мінска (не буду называць — нашто людзям праблемы?). За тое, што мяне палажылі ў тэрміновым парадку і далі ўсё патрэбнае лячэнне, я заплаціла загадчыку аддзялення пэўную суму (для мяне — не такую і значную, а як для звычайнага чалавека дык 100 даляраў — вельмі вялікія грошы). Я асабіста не магу наракаць — лячэнне атрымала на самым лепшым узроўні. Спіна ўжо не баліць, але ж мучае сумленне.

Мне не шкода заплаціць за сваё здароўе: траты акупяцца спаўна. Але мне здаецца, што з тых грошай, якія я прыватна дала загадчыку аддзялення, нічога не перапала ані палатнаму доктару, ані медсёстрам — тым больш санітаркам, якія тройчы на дзень мылі нашую палату. Хіба гэта правільна?

Не скажу, што я маю крыўду на загадчыка: ён выдатны доктар, чулы чалавек, у яго залатыя рукі. Але розніца паміж ім і мною заключаецца ў тым, што ён зарабляе грошы на *дзяржаўнай маёмасці*, а я іх зарабляю *сваімі рукамі* і *сваім рублём*. Я яму не зайздрошчу, не падумайце: проста ў нашай дзяржаве няма магчымасці адчыніць уласную клініку. Адсюль і ўся гэтая «карупцыя».

Я б хацела плаціць за сваё здароўе сама, а пасля ведаць, што з маіх грошай — а колькі я іх заплачу, гэта ўжо мне самой выбіраць! — мае заробак кожны, хто мне дапамагае — і доктар, і сястра, і санітарка, і тая жанчына, што раздае няхітрую бальнічную ежу. Адныя кажуць, што гэта называецца «прыватная медыцына». Другія кажуць — «страхавая медыцына». Як па мне, гэта — медыцына, якую я хачу.

**Ганна ЛІХТАРОВІЧ,**
*дырэктар фірмы, Мінск*

# Добра, калі ёсць свята

Дарагая рэдакцыя! Шмат гадоў выпісваю нашую газету, і ведайце — буду выпісваць, як бы яна ні называлася. Думаю, што НАВІНЫ — залішне нейтральная назва, але ж, відаць, так вам было трэба.

Прачытала днямі артыкул Кастуся Скуратовіча пра «славянскі базар» у Віцебску і рашылася напісаць — першы раз у маім жыцці. Не пра базар я, хоць і яго, папраўдзе кажучы, было цікава паглядзець па тэлевізары. І не пра каўбасу, якая пасля раптам падаражэла. Я пра ўсякія такія афіцыйныя святы, і хочацца прыпомніць свята горада, якое ў Мінску святкавалі 3—4 ліпеня.

Канечне, на гэткія святы трацiцца вельмі шмат грошай, прычым і грошай з маёй кішэні, бо я — звычайная (і ўлады думаюць — дурная) падаткаплацельшчыца. Але для простых людзей гэта сапраўды радасць. Скажу пра сабе. Я працую прадаўцом у спажыўкааперацыі Вілейскага раёна. Мяне — дзякуй Богу! — паслалі ў Мінск ад нашага райпо гандляваць рознымі каўбасамі ды гарэлкай. Рэч не ў тым, колькі я натаргавала і колькі мне далі прэміі. Але ж гэта для мяне была, бадай, адзіная магчымасць вывезці ў сталіцу двух маіх хлапчукоў, каб і яны паглядзелі, што такое Мінск, што такое свята, што ёсць на свеце і не толькі будзёншчына ды бруд, як у нашым райцэнтры.

Ведаю, што ў нармальных краінах святы бываюць нярэдка, і ніхто за гэта не пяе нікому славу. Так і я думаю: людзі маюць права мець сваё свята, а прэзідэнтам проста нічога не застаецца, як ім дагаджаць. Бо мы, народ, — гэта сіла. Дык дзякуй вам, людзі, што ў нас ёсць святы. А будзе іншая ўлада — і святаў паболее.

**Ганна,**
*Вілейка, Мінскай вобласці*

***P.S.** Хацела была падпісацца сваім імем, ды перадумала. Я дык не баюся: выганяць з кааперацыі — у калгас заўсёды возьмуць. Абы каб дзяцей настаўнікі ў школе не цкавалі.*

# Мёртвы аб'ект у лесе

Калі ехаць са Слоніма на Зэльву, адразу за вёскай Чамяры пачынаецца лес, у якім яшчэ не так даўно знаходзіўся сакрэтны ваенны аб'ект. Гэтае лясное месца вяскоўцы называюць Падоськавічы. Ваенны аб'ект быў абгароджаны калючым дротам, туды нікога і ніколі не пускалі. Калі ж хто прабіраўся праз дрот на закрытую тэрыторыю, каб назбіраць ягад ці грыбоў, да «парушальнікаў» адразу беглі салдаты з аўтаматамі і сабакамі. Рознае здаралася: адных затрымлівалі, другія ўцякалі. Праўда, ніхто ніколі так і не змог даведацца, што ахоўвалі салдаты. Людзі ж гаварылі, што там стаяць ракеты з ядзернымі боегалоўкамі. Па іншых звестках, гэта быў аб'ект сувязі.

На днях мы наведалі гэтае месца. Вайскоўцы яго кінулі даўно. Пустыя памяшканні гэтай часці некалькі гадоў назад прыдбаў калгас «Уперад» Слонімскага раёна, каб стварыць там сталярны цэх. Цэх, відаць, існаваў, але займаліся тут здабычай каляровых металаў з кабеляў, якія



*На здымку: пакінутая ваенная база Падоськавічы*

выкопвалі з зямлі і выцягвалі з бункераў. Гэтай дзейнасцю ў свой час зацікавіліся нават супрацоўнікі Слонімскага КДБ.

Сёння аб'ект мёртвы. Памяшканні ніхто не ахоўвае. Выбітыя вокны, знятыя дзверы, разабраная падлога, сотні тон металалому. Часта пад нагамі трапляюцца люкі: праваліўшыся туды, назад ужо не выбрацца. На дне гэтых люкаў відаць жалезныя дзверы, адчыніўшы якія трапляеш у цёмныя, падземныя казематы.

Куды яны вядуць і што захоўваецца пад зямлёю — невядома. Толькі людзі кажуць, што нідзе няма такіх буйных суніц і чарніц, як у гэтым лесе ў Падоськавічах.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**Мікалай СУПРУН,**
*Слонім*

*Радкі з лістоў*

У некаторых беларускіх газетах часам сустракаю слова «Белоруссия». Няўжо журналісты і рэдактары не разумеюць, што такая назва нашай краіны сёння ўжо рэжа вуха нармальнаму чалавеку.

**Ларыса Барысаўна ПЯТРОВІЧ,**
*г.Мінск*

Шаноўная рэдакцыя! Хачу праз газету выказаць удзячнасць пісьменніку Уладзіміру Арлову, артыкулы якога вы часта друкуеце. Гэта і цікава, і пазнавальна. Я думаю, што такія матэрыялы дапамогуць многім людзям адкрыць для сябе гісторыю нашай Беларусі.

**Сяргей Н.,**
*студэнт, г.Мінск*

Койданаўская
гарадская арганізацыя
БНФ «Адраджэнне»
смуткуе з прычыны
заўчаснай смерці
Сідора
Сяргея Іванавіча
і выказвае спачуванне
ягоным родным і блізкім.

Сябры Свіслацкай рады
Маладога Фронту
выказваюць спачуванне
сям'і і блізкім
Змітра Чапукова,
які загінуў падчас
вучэбнай практыкі
ў дзіцячым лагеры «Артэк».

# Апладысментаў не чуваць

*Палітыка інтэграцыі вачыма жыхароў сталіцы*

**Юрый ХАДЫКА**

Нядаўні візіт прадстаўнікоў урада Расіі ў Мінск зноў зрабіў актуальнымі пытанні аб палітычных мэтах прэзідэнта Лукашэнкі і ступені падтрымкі насельніцтвам ягонай палітыкі «інтэграцыі». Апошні тэрмін мушу закавычыць з той прычыны, што ў шматлікіх прамовах прэзідэнта ён не атрымаў яснай дэфініцыі. Не зразумела, што канкрэтна мае на ўвазе Лукашэнка — палітычную інтэграцыю з поўнай або частковаю стратаю суверэнітэту Беларусі? Ці толькі эканамічную, за што прагаласавала насельніцтва краіны на рэферэндуме 1995 г.?

### За незалежнасць — 85 працэнтаў

Незалежная сацыялагічная група «Мінск» у чэрвені правяла апытанне жыхароў г.Мінска па рэпрэзентатыўнай выбарцы з мэтаю высветліць стаўленне да працэсу інтэграцыі Беларусі з Расіяй. Агульная колькасць апытаных склала 479 чалавек. Таму адносная пагрэшнасць вынікаў складае каля 5%. Распаўсюджанне дадзеных на ўсю краіну таксама не выклікае вялікіх пярэчанняў, паколькі думка жыхароў сталіцы, як паказваюць іншыя сацыялагічныя даследаванні, не вельмі істотна разыходзіцца з думкаю астатняга насельніцтва.

Першае пытанне анкеты тычылася стаўлення да самой ідэі інтэграцыі з Расіяй. 42% «цалкам» і 16% «у асноўным» гэтую ідэю ўхваляюць, а катэгарычна «супраць» — 29%. Такім чынам, большасць насельніцтва падтрымлівае саму ідэю інтэграцыі.

Аднак больш канкрэтная пастаноўка пытання дае іншыя вынікі. Напрыклад, тэзіс *«Беларусь і Расія павінны аб'ядноўвацца ў адну дзяржаву»* падтрымала толькі 15% апытаных. Астатнія 85% падтрымалі ідэю палітычнай незалежнасці Беларусі. Пры гэтым палова з іх (42 працэнты) ухвалілі тэзіс *«Беларусь павінна застацца незалежнаю, суверэннаю краінай і супрацоўнічаць з тымі, з кім ёй будзе выгадна»*, а 9% выказаліся за інтэграцыю з еўрапейскімі краінамі.

Неістотная колькасць як тых, хто выступае за ліквідацыю беларускай незалежнасці, так і тых, хто выключае супрацоўніцтва з Расіяй, яшчэ раз сведчыць пра цвярозы падыход жыхароў Мінска да перспектываў развіцця маладой суверэннай дзяржавы Беларусь. Гэты падыход, відавочна, супярэчыць інтэграцыйнай палітыцы прэзідэнта Лукашэнкі і асуджае яго канфліктныя паводзіны ў адносінах з заходнімі дэмакратычнымі краінамі, што абяртаецца для Беларусі вялікімі эканамічнымі і палітычнымі стратамі.

### Што дала «інтэграцыя»?

На пытанне анкеты *«Ці падтрымліваеце вы дзейнні беларускіх уладаў па развіцці працэсу інтэграцыі Беларусі з Расіяй?»* 17% адказалі — так, цалкам (лічба вельмі блізкая да 15% антынезалежнікаў). Яшчэ 33% падтрымліваюць «у асноўным». 35% не падтрымліваюць. Астатнія 15% не далі яснага адказу.

Аднак вынікі «інтэграцыі» палукашэнкаўску жыхары сталіцы ацэньваюць яшчэ больш сціпла. На пытанне *«Ці спраўдзіліся вашыя чаканні, звязаныя са стварэннем Саюза Беларусі з Расіяй?»* толькі 7% цвёрда сказалі «так» ды яшчэ 12% «у асноўным, так». «У асноўным, не» і «не» адказалі 16% і 27% адпаведна. І яшчэ 21% заявілі — «у мяне не было ніякіх чаканняў». Гэта азначае, што амаль 2/3 насельніцтва негатыўна ацэньваюць дзейнасць прэзідэнта як раз у тым накірунку, якім ён найбольш ганарыцца.

Гэта пацвярджаецца і адказамі на наступнае пытанне: *«Як, на вашую думку, адбіваецца працэс інтэграцыі Беларусі з Расіяй на сацыяльна-эканамічным і палітычным становішчы нашай краіны?»* «Толькі станоўча» — 7%. «У большай ступені станоўча» — 23%. «У большай ступені адмоўна» — 16%. «Толькі адмоўна» — 6%. «Ніяк не адбіваецца» — 22%. «Не ведаю» — 9%. «Цяжка адказаць» — 17%. Такім чынам, не больш 30% мінчукоў (хоць і з агаворкамі) лічаць, што «працэс інтэграцыі» станоўча адбіваецца на становішчы Беларусі. Вельмі прыкры вынік для прэзідэнта Лукашэнкі — калі ўлічыць, што ў яго застаўся ўсяго адзін год, каб пераканаць людзей у слушнасці сваёй аднабаковай знешняй палітыкі.

### Кароткая памяць

На маю думку, праведзенае апытанне ў пыл разбівае міф лукашэнкаўскай прапаганды пра «ўсенародную» падтрымку палітыкі «інтэграцыі». За чатыры гады прэзідэнцтва Лукашэнкі палітычная культура жыхароў Мінска істотна вырасла, прапаганда дае ўсё больш нікчэмныя вынікі.

Аднак і недаацэньваць тую шкоду, якую нясе беларускаму народу манапалізаваная ўладаю падцэнзурная прэса, не выпадае. Дэзінфармацыя, скажэнне рэальнай сітуацыі, тэндэнцыйная прапаганда забіваюць памяць людзей, прымушаюць іх прымаць адказныя рашэнні спантанна і тут жа забываць пра іх. Напрыклад, на пытанне *«Ці ўдзельнічалі вы ў рэферэндуме 1995г. па пытанні аб неабходнасці эканамічнай інтэграцыі Беларусі і Расіі?»* 53% рэспандэнтаў адказалі — так, 36% — не. І кожны дзевяты — «не памятаю»! А з тых, хто браў удзел, «за» прагаласавала 55%, 22% — «супраць» і 23% адказалі — «не памятаю». Занадта вялікая доля тых, хто ў 1995 г. выканаў свой грамадзянскі абавязак фармальна, не ўнікаючы ў сутнасць справы і не задумваючыся пра вынікі свайго галасавання. А разам з тымі, хто наогул ухіліўся ад галасавання, доля пасіўнага электарата ў Мінску дасягае 51%.

Вось і атрымліваецца, што нават у сталіцы, дзе атрымаць аб'ектыўную інфармацыю значна лягчэй, чым у правінцыі, палітычна актыўныя грамадзяне складаюць меншасць. Што ж гаварыць пра астатняе насельніцтва краіны, якое чэрпае інфармацыю толькі з «кісельнага» радыё ды тэлебачання? Таму змаганне за свабоду слова, права атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю застаецца важнейшай палітычнай задачай дэмакратычных сілаў у Беларусі.

# Збыўся прагноз Багданкевіча, а не Пракаповіча

**Па афіцыйнай інфармацыі, сума валютных укладаў насельніцтва ў банках дасягнула 165,5 мільёна долараў. Многа гэта ці мала?**





Як вядома, у красавіку прэзідэнт Лукашэнка заклікаў беларусаў прынесці долары і марачкі ў банкі. У спецыяльным дэкрэце ён пакляўся, што *«дзяржава гарантуе поўную захаванасць сродкаў і вяртанне іх па першым патрабаванні ўкладчыкаў»*. Тут жа былі пералічаныя сем упаўнаважаных банкаў (Беларусбанк, Белпрамбудбанк, Белаграпрамбанк, Белбізнесбанк і іншыя), якім прэзідэнт даверыў трымаць валюту грамадзянаў.

Каб людзі не баяліся, Лукашэнка паабяцаў пры адкрыцці рахункаў не патрабаваць дэкларацыю аб паходжанні грошай. Абяцалася поўная тайна ўкладаў, якія дзяржава калі і сканфіскуе, то выключна па рашэнні суда. Словам, як у вядомай казцы: закапайце грошыкі ў зямлю — і спакойна чакайце, пакуль вырастуць прыбыткі.

Новы шэф Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч прагназаваў па вясне, што гэты дэкрэт дасць магчымасць прыцягнуць у інвестыцыйны абарот амаль 2 мільярды долараў. Менавіта столькі валюты, па словах П.Пракаповіча, людзі прынясуць на захаванне. Прагноз шэфа Нацбанка аказаўся пустым, як і казка. Калі на пачатак траўня валютныя ўклады насельніцтва склалі 144,2 мільёна долараў, то на пачатак ліпеня — толькі 158,5 мільёна долараў. Як бачна, прырост аказаўся мізэрным: сярэднестатыстычны беларус прынёс за гэты час у банкі 1 долар 40 цэнтаў.

Атрымліваецца, што людзі не надта давяраюць прэзідэнту і ягоным банкам. І нездарма. Вось свежы прыклад. Як паведамляе «Белорусская газета», у шэраг банкаў паступілі запыты з падатковых інспекцыяў з просьбай даць звесткі пра тых грамадзянаў, якія ўклалі ад 500 і больш долараў. Што будзе далей — здагадацца няцяжка.

Наша газета ў красавіку друкавала прагноз экс-шэфа Нацбанка Станіслава Багданкевіча, які сказаў пасля выхаду памятнага лукашэнкаўскага дэкрэта, што народ не пабяжыць у банк са сваёй валютай, бо *«людзі не даюць пра лёгкае стаўленне улады да законаў і ўласных абавязкаў і не давяраюць дзяржаве»*. Сапраўды, публіка не пабегла.

Мы папрасілі Станіслава Багданкевіча пракаментаваць цяперашнюю сітуацыю.

— Народ у нас даволі адукаваны і ведае, што нашыя банкі неліквідныя; яны працуюць у асноўным не на ўласных сродках, а на пазыках з Нацбанка. Пастаянна выдаюцца крэдыты на жыллё, на сельскую гаспадарку, а гэта — пустыя грошы, якія ніколі не вернуцца. Спачатку абяцалі легалізаваць валютны рынак з 1 жніўня, цяпер пераносяць гэта на канец года. Ці можна верыць уладам, якія парушылі кантракты з замежнымі краінамі і выселілі дыпламатаў з Драздоў, прычым давялі справу да міжнароднага скандалу?

Хто даверыць грошы дзяржаве, у якой не паважаюць законы і правы? Я не раю грамадзянам укладваць сваю валюту ў банкі, пералічаныя ў прэзідэнцкім дэкрэце. Найлепш звяртацца ў тыя, якія ў сваім статутным фондзе маюць вялікую долю заходняга ці расійскага капіталу і з'яўляюцца больш незалежнымі ад самадурства ўладаў. Гэта «Белтрансгазбанк», «Транзітбанк», «БелБалтыя», «Мінсккомплексбанк» і іншыя. Але і тут ёсць рызыка, бо і іх могуць абавязаць выдаць грошы пад стратныя праекты, напрыклад, «Гомсельмашу», «Гарызонту» ці «Інтэгралу». Вярнуць валютныя пазыкі гэтыя прадпрыемствы не змогуць, а ўкладчыкі — прайграюць.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*ДАГЕРРОТИП*

# Снова в лакейской

**Семен БУКЧИН**

Белорусский писатель не может без власти. Она, власть, обязана содержать его, давать ему, и не только на кусок хлеба с маслом. Причем любая власть — коммунистическая, самодержавная, авторитарная... Потому что, кто ж этого не знает, белорусский писатель — высшая наша общественная ценность, без которой мы увянем, пропадем, деградируем.

Хорошо жилось нашему писателю при коммунистах! Уважали тогда писателя! Не всякого, конечно, но ежели человек не высовывался, то мог рассчитывать на свою пайку. Нынче времена поганые, писатель так глубоко задвинут, что и не видать его вовсе. А кушать ведь хочется не меньше. И чтоб уважали, естественно...

Но времена изменились. Новой власти ни к чему прятаться за всякие дежурные слова о «партийности и народности литературы». Она откровенно требует хорошей и верной службы за ту же пайку. На недавней встрече с «выдающимися мастерами слова» правитель буквально так и сказал: мол, это ваше дело разъяснять мою политику. Я буду продавать в Россию белорусские товары, которые нигде больше не нужны, и ежели дело выгорит, то и вам из выручки на гонорар перепадет. Но перед этим еще и уел: вы, говорит, меня так обогнали, что за вами не поспеть. Я ж, говорит, по вашим книжкам учился, где вы дело Ленина, дело партии воспевали, а теперь вон вы какие самостоятельные да суверенные...

Потупили писатели головки поначалу, а потом снова про язык, про национальные ценности, про национальную идеологию. А он им опять про экономику, про надои и привесы, про газ и нефть... Они за литературу и культуру, а он — за жизнь, поскольку человек практический. И ведь прав! Но правитель наш, как известно, человек отходчивый и добрый. Он понимает: писателю кушать хочется, и надо бы его подкормить, чтобы не ныл, не дергался. Правитель знает, что наш писатель всегда был на содержании у власти, и поэтому совсем уж его отталкивать не стоит. Но и дать понять, чей хлеб ест и на что рассчитывать может, просто необходимо.

«Единственный долг поэта перед обществом — писать хорошо». Но это ведь кто сказал? Иосиф Бродский, хотя и лауреат Нобелевской премии, но все-таки человек не наших кровей и не нашей биографии. Наш писатель знает, что писать нужно прежде всего не хорошо, а правильно, по крайней мере не переть супротив власти. Это при коммунистах он был герой и на каждом пленуме СП шумел «за мову». Так полагалось по ритуалу. Нынче шуми-не шуми — никто тебя не услышит. И все-таки ничего не остается, как бить в старый идеологический барабан: мы — элита нации, мы — учителя жизни, мы — средоточие духовности, без нас культура погибнет. И еще мы очень любим слово «народ». Народ, оказывается, изнемогает без нашего вдохновенного слова. Дайте нам сказать в полный голос, и уж тогда мы...

Ну дали. И что же? А ничего. Просто выяснилось, что литература, она не для народа, не для массы. Она для читателя. А это не одно и то же. Писать для истинного читателя и для народа это, как говорят грамотные люди, две большие разницы. Наверное, поэтому Быков остался Быковым. И даже правитель сожалеет, что не нашел с ним общего языка, значит, понимает значение «несогласного» писателя. Что же до остальных, то их место известно. Оно в лакейской. И правитель говорит с ними, внутренне их презирая. Ибо знает разницу между ними и автором книги «Стена», вышедшей в частном издательстве «Наша Ніва» тиражом в 750 экземпляров. Без просьб и поклонов в сторону власти...

